Народная Воля — 9 ВЕРАСНЯ 1997 г.

## Ганаровае званне — артысту Купалаўскага тэатра

Любімцу публікі, які стварыў цэлы каскад непаўторных вобразаў на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, акцёру Віктару Манаеву прысвоена ганаровае званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь". Ва ўказе прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі гаворыцца, што так адзначаюцца заслугі Віктара Манаева ў развіцці тэатральнага мастацтва.

**БелТА.**

**Крымінал**

## Кантрабандыстам далі "прыкурыць"

Аператыўныя падраздзяленні беларускіх чэкістаў спынілі яшчэ адну спробу кантрабандыстаў нанесці ўрон эканамічнай бяспецы краіны. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ, гэтымі днямі сумна закончыўся, здавалася, паспяхова пачаты пераход беларускай граніцы групай прадпрымальных дзялкоў. Яны былі затрыманы пры спробе незаконнага ўвозу ў нашу рэспубліку буйной партыі цыгарэт. Каробкі з "Мальбара", "Л энд М", "Магнай" кантрабандысты ў кузаве велікагрузнага аўтамабіля замаскіравалі скрынкамі са слівамі.

Перахоплены аператыўнікамі груз, які накіроўваўся з Малдовы ў Мінск, паводле папярэдніх ацэнак, "цягне" на суму больш як паўтара мільярда рублёў. З доказамі злачынства затрыманы трое зламыснікаў. Двое з іх нашы суайчыннікі, адзін — грамадзянін Рэспублікі Малдова.

Па факту кантрабанды ўзбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

## Спрацаваў план "перахват"

Шафёр гарадскога аўтапарка Лунінца да мясцовага ГРАУС змог дабрацца не адразу пасля непрыемнасці, што здарылася з ім. У 15.40 паблізу вёскі Вулька два мужчыны, якіх ён падвозіў на сваёй машыне "Фальксваген", пад пагрозай нажа завалодалі яго аўтамабілем і зніклі.

Для вышуку і затрымання злачынцаў у Брэсцкай вобласці быў уведзены план "Перахват". У ім былі задзейнічаны ўсе мабільныя сілы розных міліцэйскіх службаў і падраздзяленняў. У 17 гадзін у Ганцавічах экіпаж мясцовага аддзялення службы аховы заўважыў "Фальксваген". Уцякаючы ад пагоні, угоншчык не справіўся з кіраваннем, і машына ўдарылася аб агароджу. Адзін са злачынцаў выскачыў з яе салона і з вінтовачным штыком кінуўся на міліцыянера. Не разгубіўшыся, той, адбіваючы напад, параніў бандыта з табельнай зброі. Злачынцы былі затрыманы. У іх канфіскавана халодная зброя, а ў салоне "Фальксвагена" пры аглядзе знайшлі 217 мільёнаў рублёў.

## Надомны арсенал канфіскуе "Арсенал"

Мэта бестэрміновай аперацыі "Арсенал", што праводзяць супрацоўнікі міліцыі, — канфіскацыя зброі, якая незаконна захоўваецца. І яна дае вынікі практычна штодня. Асабліва эфектыўныя намаганні, калі ў рэалізацыі аператыўных мерапрыемстваў удзельнічаюць розныя тэрытарыяльныя органы. Так, у Бабруйску супрацоўнікі мясцовага Ленінскага РАУС і аднайменнага РУУС сталіцы ў кватэры 34-гадовага непрацуючага знайшлі гранату Ф-1, абрэз паляўнічай стрэльбы, два пісталеты, магазін да аўтамата Калашнікава і 90 патронаў розных калібраў.

Гаспадара надомнага зброевага арсеналу чакаюць прадугледжаныя законам санкцыі.

## Вымагальнікі не супакойваюцца

Рэкет, або на мове закона вымаганне, — даволі шырока распаўсюджаная з'ява ў сённяшняй крымінальнай рэчаіснасці. Гэту думку ў гутарцы з карэспандэнтам БелТА падкрэсліў супрацоўнік прэс-службы МУС рэспублікі падпалкоўнік міліцыі Васіль Курловіч. У якасці прыкладу ён прывёў 4 выпадкі вымагання, зарэгістраваныя за адны суткі.

Жыхар гарпасёлка Радашковічы, які нідзе не працуе, звярнуўся ў міліцыю ў 2.30 ночы. Пры гэтым ён паведаміў, што напярэдадні вечарам недалёка ад цэнтра пасёлка Лясны Мінскага раёна невядомы пад пагрозай фізічнага насілля запатрабаваў у яго 200 долараў. Асоба вымагальніка была ўстаноўлена адразу: з доказамі злачынства затрыманы мясцовы гультай.

А вось у Салігорскім ГРАУС, куды звярнуўся рабочы другога рудаўпраўлення ВА "Беларуськалій", папярэднія звесткі аб рэкеціры даведаліся ўжо ад заяўніка. У яго сына, вучня 8 класа, 500 тысяч рублёў вымагаў... аднакласнік. Ён і быў затрыманы пры атрыманні грошай.

У большасці выпадкаў, адзначае супрацоўнік прэс-службы МУС, "утаймоўваюць" вымагальнікаў супрацоўнікі службы па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. У Віцебску, напрыклад, яны затрымалі 33-гадовага раней судзімага грамадзяніна за вымаганне ў інкасатара мясцовага філіяла Нацыянальнага банка трохсот долараў. А ў Мінску аператыўнікі затрымалі з доказамі злачынства жыхара Ульянаўскай вобласці, які меў намер пад пагрозай расправы атрымаць 12000 долараў ад камерцыйнага дырэктара адной са сталічных фірм.

Паводле слоў Васіля Курловіча, ахвяры вымагання не заўсёды звяртаюцца за дапамогай да праваахоўных органаў, а спрабуюць шукаць абарону ў крымінальных элементаў. Упэўненасць у беспакаранасці часцей за ўсё і штурхае рэкеціраў на злачынствы. Практыка ж паказвае, што вымагальнікі тут жа адмаўляюцца ад сваіх злачынных намераў, як толькі даведаюцца, што пра іх вядома міліцыі.

**Сяргей ЦІВАНАЎ, БелТА.**

*В последнее время правительственные чиновники заговорили о белорусском экономическом чуде. По их словам, Беларусь развивается самыми высокими темпами в Европе. В то же время во многих трудовых коллективах нарастает социальная напряженность, вызываемая низким уровнем жизни.*

*Сегодня мы публикуем два взгляда, две точки зрения на состояние экономики страны — правительственную и профсоюза радиоэлектронной промышленности.*

# "Белорусское экономическое чудо": пропагандистская болтовня или реальность?

*С точки зрения правительства*

## Растет производство, повышается уровень жизни

Главным итогом экономического развития Беларуси в июле текущего года явилось "закрепление положительных тенденций", обозначившихся в первом полугодии, заявил на пресс-конференции в Минске первый вице-премьер Петр Прокопович.

По его данным, объем валового внутреннего продукта (ВВП) за семь месяцев 1997 года составил 167,7 трлн. бел. рублей ($1=27 тыс. бел. руб.), что на 11% больше, чем за аналогичный период прошлого года. При этом в июле ВВП возрос на 13% по сравнению с предыдущим месяцем, подчеркнул оратор.

За семь месяцев произведено промышленной продукции на 201 трлн. бел. рублей, или на 14,6% больше, чем за соответствующий период 1996 года. По словам П.Прокоповича, 87,3% предприятий увеличили в текущем году выпуск продукции, причем наибольший прирост в размере 57,8% достигнут на предприятиях с участием иностранного капитала.

Первый вице-премьер особо отметил, что в июле впервые с начала года предприятия отгрузили 101,6% от общего объема произведенной продукции.

Вместе с тем П.Прокопович сказал, что количество убыточных предприятий составляет 15,5% от их общего числа. Они принесли государству убытков на сумму 516 млрд. бел. руб.

В сельском хозяйстве, по словам П.Прокоповича, за семь месяцев было произведено продукции на 51,3 трлн. бел. руб., что на 4,6% больше, чем за аналогичный период 1996 года. Первый вице-премьер высказал оптимизм в отношении урожая текущего года, отметив, что он будет "значительно выше, чем прошлогодний". При этом П.Прокопович отметил, что даже запасы урожая-96 позволили в первом полугодии текущего года сократить импорт в республику зерна на 40%.

П.Прокопович сообщил, что значительно выросли по сравнению с прошлым годом и другие основные показатели экономического развития. В частности, объем инвестиций — на 18%, грузооборот всех видов транспорта — на 15,1%, производство товаров народного потребления — на 23,1%, розничный товарооборот — на 18,6%, ввод жилья — в 1,4 раза.

На базе роста производства, по утверждению первого вице-премьера, удалось добиться повышения уровня жизни населения. Его реальные доходы возросли на 11%.

По словам П.Прокоповича, объем внешней торговли составил $6,9 млрд. и возрос на 13,9% по сравнению с аналогичным периодом минувшего года. Вместе с тем он признал, что отрицательное сальдо торгового баланса достигло $919 млн.

В то же время к числу достижений правительства в июле текущего года П.Прокопович отнес увеличение объема экспорта по сравнению с июнем на 24,5% и на 13,2% по сравнению с семью месяцами 1996 года. Теперь, по мнению П.Прокоповича, задача заключается в том, чтобы добиться превышения экспорта над импортом.

Кроме того, как заявил П.Прокопович, республика практически рассчиталась с Россией за поставки нефти. Что касается оплаты за газ, то уровень текущих платежей составляет 120%. "За нами остается $120 млн. долга за 1996 год, однако правительство твердо намерено до конца текущего года погасить его", — заявил первый вице-премьер.

"Мы переходим к периоду стабильного развития экономики, когда уровень инфляции и девальвации валюты не должен превышать 2% в месяц. Именно это является ближайшими стратегическими целями правительства", — подчеркнул П.Прокопович.

*С точки зрения профсоюза*

## Десятки тысяч работников обречены на полуголодное существование

Недавно состоялся внеочередной пленум Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности, на котором проанализировано состояние дел на производстве и в экономике. Ниже публикуем фрагменты из документов этого форума.

**Из доклада руководителя профсоюза Геннадия Федынича**

В "белорусском экономическом чуде" есть свои особенности. Они состоят в том, что резкий экономический скачок заметило только руководство республики, а трудовой народ в очередной раз почему-то не догадывается, что жить стал гораздо лучше. Народ можно обмануть, и причем неоднократно. Экономику — нельзя!

Многие цифры говорят совершенно об ином. Рост цен в текущем году превысил аналогичный показатель прошлого и составил 141,3%. Номинальная заработная плата в долларовом исчислении упала с 77,7 до 68 долларов США.

За полугодие страна имеет отрицательное сальдо торгового баланса, которое достигло 919,2 млн. долларов США против 572 млн. за тот же период 1996 года. Другими словами, республика не может сама себя прокормить.

А по словам вице-премьера Прокоповича, рост ВВП на 11% — лучший показатель в Европе. Удивительная вещь: обыкновенная вареная колбаса не по карману рабочему человеку, а мы — лучшие в Европе. Как говорится, было бы смешно, если бы не было так грустно.

И как можно вообще говорить о наступлении начала этапа стабильности, если такая отрасль, как радиоэлектронная, обладающая 5 лет назад высочайшим научно-техническим потенциалом, которым гордился весь бывший Союз, оказалась, говоря спортивным языком, в глубоком нокауте.

Республиканский совет профсоюза оценивает социально-экономическое положение отрасли как бедственное.

**Из постановления пленума профсоюза**

Пленум отмечает, что социально-экономическая ситуация в радиоэлектронной промышленности остается крайне сложной и продолжает ухудшаться. Низкий уровень заработной платы не обеспечивает большинству работников отрасли и их семьям достойное существование.

В первом полугодии на многих предприятиях отрасли наниматели не выполняли отраслевое соглашение и коллективные договоры в части своевременной выплаты заработной платы, обеспечения работников спецпитанием и средствами индивидуальной защиты. Причина невыполнения — отсутствие денег.

Пленум считает, что основными причинами бедственного положения отрасли являются: огромное падение объемов производства; хронический недостаток оборотных средств для увеличения объемов производства продукции, пользующейся спросом; неэффективное управление многими предприятиями отрасли...

**Из обращения участников внеочередного пленума Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности к президенту, Национальному собранию и Совету министров Республики Беларусь**

Мы, участники внеочередного пленума Республиканского совета отраслевого профсоюза, представляющие предприятия и организации радиоэлектронной промышленности Беларуси, вынуждены обратиться к высшим органам власти в связи с бедственным положением абсолютного большинства членов нашего профсоюза и продолжающимся экономическим кризисом отрасли.

Среднедушевой доход семьи из 3 человек в июне т.г. составил всего 547 тысяч рублей, или 29,4 процента от минимального потребительского бюджета. Такой уровень жизни — это уже не порог бедности, это — нищета! Десятки тысяч работников некогда ведущей отрасли обречены на полуголодное существование. По отношению к ним нарушается статья 42 Конституции Республики Беларусь, гарантирующая наемным работникам уровень вознаграждения за труд, обеспечивающий им и их семьям достойное существование.

Из-за непомерно низкой зарплаты на большинстве предприятий закрыты рабочие столовые, а посещение действующих сократилось в 5—10 раз.

Продолжается падение численности занятых в отрасли работников. По сравнению с первым полугодием прошлого года численность уменьшилась на 14,5 тысячи человек, а с начала кризиса — в 2,5 раза. Прекратили свое существование такие предприятия отрасли, как НПО "Спектр", Витебский радиотехнический завод, Гродненский завод "Радиоприбор", Витебский завод "Мегом". Подобная участь ожидает многие другие предприятия нашей отрасли, если в ближайшее время со стороны руководства республики, Министерства промышленности и руководства предприятий не будут приняты необходимые решения и меры по их экономическому и финансовому оздоровлению.

Мы заявляем о своей готовности к организованным массовым акциям протеста уже в октябре этого года в том случае, если по истечении месячного срока со стороны руководства республики не будут приняты конкретные меры по созданию необходимых условий для возрождения радиоэлектронной промышленности.

* * *

Вот такие два взгляда на развитие экономики. Какой из них более верный? Хотелось бы услышать точку зрения наших читателей.

**Андрей РУСАКОВИЧ.**

**Спорт**

## Сусветнае "серабро" ў беларускіх гімнастаў

Разыграны першыя камплекты ўзнагарод сусветнага чэмпіянату гімнастаў, які праходзіць у Лазане. Іх аспрэчвалі шэсць мацнейшых жаночых і мужчынскіх зборных, якія выйшлі ў фінал пасля кваліфікацыйных спаборніцтваў. Што датычыць нашых дзяўчат, то яны ў спрэчцы не ўдзельнічалі, заняўшы перад гэтым сёмае месца. А вось гімнасты праявілі сябе проста цудоўна.

Напомнім, што ў барацьбе за выхад у галоўны фінал яны былі чацвёртымі, прапусціўшы наперад сапернікаў з Кітая, Расіі і Японіі. І ў гэтым, безумоўна, вялікая заслуга лідэра каманды Івана Іванкова, які атрымаў на ўсіх снарадах вынік не ніжэй за 9,4 бала. Набраўшы ў суме 56,873 бала, ён на цэлых 0,7 апярэдзіў свайго асноўнага канкурэнта Хуана Ку з Кітая. Аднак у фінале ўсё пачыналася з нуля. І тут нашы юнакі, як кажуць, кінулі пальчатку вядучым камандам свету. Відаць, праведзеная напярэдадні разведка боем усяліла ў іх упэўненасць у тым, што яны здольны пазмагацца за медалі з тымі ж расіянамі, немцамі і амерыканцамі, за выключэннем, бадай, кітайцаў.

Разлік быў зроблены правільны. Кітайскія гімнасты прайшлі турнір амаль без памылак. Расіяне, якія кінуліся ім наўздагон, аказаліся негатовымі наблізіцца да так дакладна адладжанай гімнастычнай машыны. У выніку чэмпіёны Алімпіяды ў Атланце з вялікай цяжкасцю заваявалі трэцяе месца, на тысячныя долі апярэдзіўшы японцаў. Затое ў гэтай сітуацыі бліскуча праявілі сябе беларускія спартсмены, якія змаглі не толькі ўклініцца ў барацьбу гігантаў, але і заняць другое месца на сусветным гімнастычным памосце.

Сярод жаночых каманд залатыя медалі заваявалі румынкі, сярэбраныя — расіянкі, бронзавыя — кітаянкі.

## Першая страта ў беларускай акадэмічнай флатыліі

Наша двойка двухлопасцевая, якая стартавала ў паўфінале чэмпіянату свету па акадэмічнаму веславанню, што праходзіць у Францыі, у складзе Марыны Знак і Тамары Давыдзенкі, не трапіла ў лік прэтэндэнтаў на медалі. Гэта першая страта сярод беларускіх экіпажаў, якія паспяхова прайшлі суцяшальныя заезды.

Па-ранейшаму шанцы на высокія месцы захоўваюць алімпійская чэмпіёнка Кацярына Хадатовіч і жаночая чацвёрка двухлопасцевая.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**

## Для рэкламы на Міншчыне ўстаноўлены новы парадак

На тэрыторыі Мінскай вобласці ўступілі ў сілу новыя правілы размяшчэння вонкавай рэкламы. Каменціруючы гэты факт па просьбе карэспандэнта БелТА, начальнік упраўлення інфармацыі Мінаблвыканкама Рэгіна Давідовіч адзначыла, што галоўнае патрабаванне, якое прад'яўляецца да галоўнага рухавіка гандлю, — даступнасць. А таксама тое, што рэклама павінна распаўсюджвацца толькі на беларускай або рускай мовах. Форма рэкламных шчытоў і стэндаў па новых правілах не можа нагадваць дарожныя знакі і паказальнікі.

На думку Рэгіны Давідовіч, сёння рэкламараспаўсюджвальнік не дапусціць неадпаведнай, недакладнай, неэтычнай і скрытай рэкламы. Тым прадпрыемствам, арганізацыям і камерцыйным фірмам, якія хочуць бачыць рэкламу сваіх тавараў у гарадах і пасёлках Міншчыны, а таксама ўздоўж аўтамабільных дарог, неабходна падаць заяўку ў аддзелы па архітэктуры і горадабудаўніцтву, якія разгледзяць яе ў дзесяцідзённы тэрмін.

Уладальнікі ж рэкламных шчытоў, якія маюць непрывабны выгляд або тэрмін эксплуатацыі якіх закончыўся, а таксама ўстаноўленых самавольна, абавязаны, згодна з новымі правіламі, забяспечыць іх дэмантаж.

**Аксана АСПІШЧАВА, БелТА.**

**Пастскрыптум**

# Высокая мода... ад беларускіх куцюр'е

Пагадзіцеся, неяк неверагодна гучыць: Беларусь і высокая мода. Мы прывыклі да ранейшых сцвярджэнняў, што ў нас быццам няма ні цікавых ідэй, ні імён у галіне моды. Хоць на самой справе ёсць, але, акрамя групкі спецыялістаў, іх ніхто не ведае. І надышоў час, каб назваць у поўны голас гэтыя імёны. Ніна Астапенка і Алеся Андрыюк з Беларускага цэнтра моды і Святлана Рыбалкіна з Гомельскай фабрыкі "8 Сакавіка". Іх мадэлі былі прадстаўлены і атрымалі высокую адзнаку ў жніўні на вядомай шматгадовай Міжнароднай выставе высокай моды "IGEDO" ў Дзюсельдорфе.

У гэтай выставе ўдзельнічалі калекцыі з васьмідзесяці краін свету. Каля сарака паказаў праводзілася ў павільёнах і на высокіх подыумах. Беларускім мадэльерам пашанцавала выступіць на подыуме. Толькі за адзін такі выхад на сцэну трэба было заплаціць каля ста тысяч дойчмарак. Але беларускім мадэльерам пашанцавала — ім была дадзена магчымасць прадставіць свае калекцыі бясплатна дзякуючы фірме "Протрэйт", што фінансуецца германскім урадам для выяўлення новых імён у галіне моды на Усходзе. Беларускія калекцыі былі высока ацэнены, а адну з іх, што была зроблена з аршанскага льну, хацелі купіць аж на самім паказе. Дарэчы, усе прадстаўленыя мадэлі былі пашыты з айчынных тканін...

Беларусь можа ганарыцца — усе прадстаўленыя ў Дзюсельдорфе мадэлі ўвайшлі ў каталог сусветнай моды. Прадпрымальнікі з Бельгіі, Германіі, Аргенціны зацікаўлены ў дзелавым супрацоўніцтве з беларускімі мадэльерамі. І наступная выстава ў Дзюсельдорфу адбудзецца таксама з удзелам будучых беларускіх Версачы ці Зайцавых.

Па словах дырэктара Беларускага цэнтра моды Любові Манулік, мода — гэта тое, як мы жывем, і гэта не толькі моцная індустрыя, але і значная частка культуры краіны. У Еўропе без наведвання Дамоў моды не абыходзіцца ні адзін урадавы візіт.

Беларускі цэнтр моды зараз адзін з нямногіх, што засталіся ў СНД. Няма ўжо вядомых "Крэшчаціка" і піцерскага Дома моды "На Неве", у эстонскага Дома моды з'явіліся новыя — фінскія — гаспадары. На сённяшні дзень засталіся толькі "Кузнецкі мост" у Маскве, Навасібірскі і Беларускі цэнтры моды.

Адышоў час "прысядаць" перад французскімі куцюр'е — лічаць беларускія мадэльеры. У беларускай моды ёсць свае ідэі, свае таленты, свой твар, і прыйдзе час, калі і французы будуць прыязджаць да нас па ідэі. Ды і адзенне шыюць у Беларусі не для заходнееўрапейскіх, а для славянскіх фігур. У Парыжы, напрыклад, адзенне 48-га памеру можна купіць толькі ў спецыялізаваных магазінах, а ў Беларусі — гэта сярэдні памер нашых жанчын. А праблема з адзеннем для поўных жанчын? У рэспубліку амаль не імпартуюцца паліто і сукенкі вышэй за 50-ты памер. Між тым поўныя жанчыны таксама жадаюць выглядаць прывабна і модна. Але вядома, што не бывае дрэнных фігур, а бываюць дрэнныя мадэльеры. І таму хутка ў Беларускім цэнтры моды адкрыецца салон для поўных жанчын.

Але ў той жа Францыі зараз нават пяцігадовая дзяўчынка ведае, які колер ёй да твару, які парфум падыходзіць па гараскопу. Да гэтага Беларусі яшчэ вельмі далёка... Але ўжо і сёння шмат беларускіх дзеячаў культуры, работнікаў амбасад і консульстваў, палітыкаў носяць адзенне, пашытае беларускімі мадэльерамі. Тым больш што гэтае адзенне не ўступае па якасці сярэднееўрапейскаму і па кошту значна таннейшае. І спадзяюся, што хутка будзе не так неверагодна гучаць спалучэнне: Беларусь і высокая мода.

**Ганна СОУСЬ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## Пастаўскія беспрацоўныя пракладваюць шлях у Швецыю

Вучэбныя класы для падрыхтоўкі майстроў-габеленшчыкаў і саломапляцення адкрыты ў Пастаўскім цэнтры занятасці. Як паведаміла карэспандэнту БелТА дырэктар цэнтра Алена Таразевіч, Паставы лідзіруюць у рэспубліцы па колькасці беспрацоўных — 3,5 тысячы чалавек. Такая сітуацыя ўзнікла пасля ліквідацыі ваенных гарадкоў, калі без работы засталося нямала людзей, якія не маюць цывільных спецыяльнасцей. У лік беспрацоўных трапілі і жонкі былых ваеннаслужачых.

На думку Алены Таразевіч, з адкрыццём новай вытворчасці, дзе не толькі вучаць майстэрству дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і шукаюць рынкі збыту вырабленай прадукцыі, становішча з занятасцю насельніцтва павінна палепшыцца. Першыя заяўкі на габелены і іншыя мастацкія вырабы Пастаўскі цэнтр занятасці атрымаў са Швецыі.

## "Пральнікі" замест камбайнаў

Так званыя "пральнікі" дасталі сям-там з паддашкаў уладальнікі прысядзібных участкаў на Віцебшчыне. З іх дапамогай дзедаўскім метадам, уручную, яны вымушаны абмалочваць снапкі са сваіх сотак. Буйныя гаспадаркі і хацелі б дапамагчы насельніцтву з абмалотам, але самі прыпазніліся са жнівом. А добрым гаспадарам няма калі чакаць, пакуль вызваляцца ад уборкі масіваў збожжаўборачныя камбайны калгасаў і саўгасаў.

Дзесятую частку ўсіх плошчаў пад збожжавымі складае на Віцебшчыне прыватны палетак. Летась ён даў 140 тысяч тон збожжа ў агульны каравай. А сёлета ў лідэры па ўраджайнасці з асабістых падвор'яў выйшаў Бешанковіцкі раён, дзе ў парадку эксперыменту на баланс сельсаветаў узялі камбайны для абслугоўвання насельніцтва.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БелТА.**

**Седьмая шкура**

## Налоговики начали изымать у предприятий имущество

Если в первом действии на стену вешается ружье — в одном из последующих оно должно непременно выстрелить. Вряд ли многочисленные предприятия-должники Бреста полагали, что акция описи их имущества и есть самое что ни на есть ружье, а не обыкновенная палка. Какое-то время ружье молчало — как выяснилось, выбирая жертву. Первым в прорезь прицела попал Брестский машиностроительный завод. Для него и грянуло.

В середине текущей недели по представлению налоговой инспекции Московского района Бреста в счет погашения задолженности бюджету у завода были изъяты две транспортные единицы: семиместная "Тойота" и "Волга", персонально закрепленные за директором предприятия. Предполагается, что обе они будут громко и со смаком — показательно — проданы с аукциона.

Все это делается для назидательного эффекта — чтоб другим неповадно было. С этим подтекстом штрафуют оппозицию, бьют и сажают журналистов, периодически линчуют кого-то из прислужников.

Но здесь-то, собственно, что неповадно? Не расплатились с бюджетом? Так расплатились бы, если б могли. Их ли, производителей, вина, что нынешние ставки налогов в одной упряжке с энергоносителями методично вгоняют предприятия в гроб? Им бы чуть встать на ноги, пополнить оборотные — ан нет, пропаганда тут же заученно вспомнит про врачей, учителей, пенсионеров.

Уж сколько твердилось о необходимости уменьшить налоговый пресс, хватало и обещаний на самых разных уровнях — а воз и ныне там. Более того, местные власти успешно сочиняют все новые мыслимые и немыслимые поборы как для предприятий, так и для физических лиц.

Любопытно, что народ начинает помалу прозревать, что за молчаливо проглатываемым малым всегда следует страшное большое. На Брестском машиностроительном рабочие отнюдь не восприняли изъятие персональной директорской "Волги" с тихим злорадством. Напротив, администрации стоило немалых усилий сдержать народ от забастовки.

Так, глядишь, помалу дойдет до того, что в бюджет заставят для начала платить из теневого бюджета. И за неуплату, как и за все остальное, кое у кого изымут персональный многомиллиардный вертолет.

**Андрей ГЛЕБОВ.**

*Брест.*

**Открытым текстом**

## У какого рабочего найдутся лишние деньги, чтобы заплатить налог на свою машину?

Нет сил терпеть тот беспредел, который творят власти во главе с президентом. Поэтому пишу в газету.

В так называемые "худшие времена" я приобрел мотоцикл (в 1976 году) и "Москвич (в 1980 году). Приобрел за свои кровные, потом заработанные деньги. Транспорт для нас всегда был предметом первой необходимости — съездить в деревню помочь родителям, добраться на свой огород, чтобы обеспечить себя же продуктами на зиму. Теперь мы можем позволить себе это только в крайних случаях. Чаще пользуемся велосипедом, так как постоянно растущие цены на бензин при низкой зарплате вынуждают отказаться от "роскоши" пользоваться машиной. По моему "Москвичу" давно плачет свалка, я его поддерживаю, как могу. А тут власть опять захотела поправить экономику за счет моего металлолома.

Сначала нас государство ограбило с вкладами. Не удалась афера с заменой номерных знаков в прошлом году, так появилась новая идея: налог, который каждый хозяин авто обязан заплатить. Из своего кармана работяги мне придется выложить 300 тысяч за "Москвич" и 75 тысяч — за мотоцикл.

А что вы положили в мой карман, господин президент? Очень смешную зарплату, даже в сравнении с той средней, которая есть в республике. Наших зарплат (моей и жены) едва хватает, чтобы дотянуть до нее. А мы еще воспитываем двоих детей. Приходится экономить даже на продуктах, купить витаминов детям не за что.

Может, президент считает, что за время его президентства все трудяги построили коттеджи, ездят на "Мэрсах" и имеют лишние деньги, чтобы заплатить этот налог? Пусть бы лучше он вспомнил о тех, кто забыл вкус колбасы.

**А.ОЛЕШКЕВИЧ — от имени рабочих завода "Палессеэлектромаш" житель города Лунинец.**

**Судебные уроки**

## Кожаная куртка

Олег, Андрей и Миша теплым июньским днем сидели на травке недалеко от рынка и пили водку. Затем первым двоим захотелось прогуляться. "Ты, кореш, посторожи мою куртку, — бросил Олег лежащему Мишке, — мы скоро вернемся".

Гуляли они не долго, минут тридцать-сорок. Но, когда возвратились, ни парня, ни куртки уже не было. "Неужели, гад, продал и пропил", — зло выпалил Олег. "С чего ты взял? — успокаивал его дружок. — Не такой он, чтобы нам насолить".

Но Олег почему-то решил, что кореш сбежал, чтобы продать его кожаную куртку. Оба, разгоряченные спиртным, солнцем и исчезновением дружка, двинули к Мише домой, чтобы выяснить судьбу куртки. И Олегу, и Андрею — по двадцать два. Первый нигде не работает, второй трудится слесарем.

Поднялись на нужный этаж, позвонили. Дверь открыл Михаил. Он еле держался на ногах. Говорил так невнятно, что невозможно было ничего понять. "Точно, гад, продал куртку и набрался как свинья", — решил Олег. Он стал нервничать, ругаться, затем зло ударил дважды кореша по лицу, тот согнулся в прихожей, а Олег саданул ему ногой в грудь.

Такие показания давал в суде Андрей и продолжал: "Я помог Мише подняться, отвел его в ванную, чтобы он смыл кровь с лица... Когда вышли из ванной, Олег опять начал ругаться, упрекать за куртку Мишу и бить его. Они продолжали драться в прихожей. Когда Миша упал, я снова помог ему добраться до ванны. Он кричал от боли. Затем завел его в спальню и уложил на матрац. Олег опять завел песню о своей кожаной куртке и опять полез драться. Ударил парня пару раз ногой. Потом Олег свалился и лег спать. И я ушел домой. Проснулся около одиннадцати вечера. Дай, думаю, схожу к Мише, посмотрю, как они там. Пошел и обнаружил парня мертвым. Олега уже не было. Испугался. Протер тряпкой ручки дверей, пол, чтобы следов не оставить, и ушел".

В ходе судебного разбирательства было выяснено, что Андрей говорит правду, но не всю. Опустил свое участие в избиении парня, что и было доказано позже.

Проснувшись утром, жена Андрея увидела, что муж сидит на кухне и курит, весь бледный и потный, а на балконе висят постиранные им брюки и сохнут ботинки. "Что бы это значило?" - поинтересовалась жена. Он сочинил, что побили цыгана и тот умер. Далее развить свою оправдательную версию не смог — пришли милиционеры и надели наручники.

Тем временем Олег ласкал подругу. Он встретил ее вчера вечером с электрички. Еле не проспал на месте преступления. Но, проснувшись, быстро собрался, не обращая внимания на лежащего Мишу. У подруги и заночевал.

Уже строил планы на новый день. Позвонил Андрею, и от его жены узнал, что того увезли в наручниках. Стало не по себе. Быстро оделся и побежал к другу Василию. И там увидел свою кожаную куртку. Протягивая ее, Василий говорил: "Хорошо, что зашел. Это меня Мишка попросил, чтобы я тебе передал, а то он набрался так, что не мог тебе ее отнести. Ты уж извини, что вчера не вернул, дела были".

Олегу стало ясно, что зря рассердился на Мишку и полез драться.

Суд дал Олегу 12 лет, Андрею — 13 лет лишения свободы.

Куртка нашлась, а парня не вернуть. И за что же его убили?

Не часто ли и мы ведем себя так, как и Олег: не заслуженно, не разобравшись, сгоряча обвиняем друзей, знакомых и даже близких — брата, сына, жену в грехах, которые они не только не совершали, но и не подумали даже о них. Пусть эта история послужит хорошим уроком для всех нас.

**Андрей РУСАКОВИЧ.**

*Минск.*

